ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 6 (68)

ЧЭРВЕНЬ 1938 г.



ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№ 6 (68) ЧЭРВЕНЬ 1938

УПРАЎЛЕННЯ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР




## ЗАГАД № 250

### па Цэнтральнаму ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота пры Дзяржплане СССР

*ад 25-га мая 1938 г.*

З маючыхся ў ЦУНХУ матэрыялаў відаць, што органы народна-гаспадарчага ўчота на месцах не вядуць дастаткова рашучай барацьбы з незаконнай справаздачнасцю і абмяжоўваюць нярэдка сваю дзейнасць у гэтых адносінах толькі фіксацыяй фактаў патрабаванняў незаконнай справаздачнасці і паведамленнямі ЦУНХУ аб парушэнні законаў аб справаздачнасці.

З прычыны гэтага і ў мэтах арганізацыі належнай барацьбы з незаконнай справаздачнасцю—загадваю:

1. Раённым і ўчастковым інспектарам узмацніць барацьбу з незаконнай справаздачнасцю, прымаючы на месцы неабходныя меры як па прыцягненню да адказнасці асоб, вінаватых у вядзенні незаконнай справаздачнасці, так і па адмене гэтай справаздачнасці.

2. У тых выпадках, калі незаконная справаздачнасць уведзена абласнымі (краявымі) і рэспубліканскімі арганізацыямі—пытанне аб адмене незаконнай справаздачнасці і аб прыцягненні вінаватых да адказнасці ставіць перад адпаведнымі органамі (СНК рэспублік, абл(край)выканкомамі) праз начальнікаў УНГУ ў рэспубліках, краях і абласцях.

3. Аб усіх-жа выпадках увядзення незаконнай справаздачнасці арганізацыямі агульнасаюзнага падпарадкавання—паведамляць у ЦУНХУ.

Начальнік ЦУНХУ пры Дзяржплане СССР **І. Сауцін.**

## Усім начальнікам абласных УНГУ і раінспектарам Наргасучота

На падставе распараджэння нам. начальніка ЦУНХУ Дзяржплана СССР прапаную пры праверцы паўнаты ўчота гаспадарак і насельніцтва ў пагаспадарчых кнігах адзнаку аб часовай адсутнасці вытвараць у графе 15 табліцы 1-й кнігі № 2 (калгаснікі) і ў графе 12 кнігі № 3 (аднзасобнікі).

Для ўноў прыбыўшых у графе прыбыцця адзначаць дату прыбыцця. Для нарадзіўшыхся паказваць дату нараджэння, памёршых выкрэсліваць з указаннем той даты, калі памёр.

Адначасова з гэтым праверыць і забяспечыць запаўненне планавых паказчыкаў па раздзелу „пасеўныя плошчы", а ў тых сельсоветах, дзе скончана веснавая сяўба, унесці фактычна зробленыя пасевы пад ураджай 1938 года па кожнай асобнай гаспадарцы.

У сувязі з набліжэннем падатковай кампаніі, паказаная вышэй праверка і забеспячэнне запаўнення пагаспадарчых кніг павінны быць да пачатку падатковай кампаніі безумоўна скончаны. У выпадку парушэння парадку запаўнення і паўнаты пагаспадарчых кніг сельсовецкага ўчота, неадкладна дакладваць прэзідыуму РВК для прыняцця адпаведных мер па выпраўленню выяўленых недахопаў і скажэнняў.

Аб прынятых раінспектарамі мерах па гэтаму пытанню паведаміць абласному УНГУ.

Начальнікам абласных УНГУ праверыць на месцах выкананне гэтага распараджэння і к 10 чэрвеня інфармаваць УНГУ БССР.

В. а. начальніка Ўпраўлення наргасучота БССР **Абудзееў**.

23 мая 1938 г.

## Усім начальнікам аблЗУ, копія УНГУ БССР

Па маючыхся ў НКЗ БССР звестках, Палескае аблЗУ патрабуе ад райЗА звесткі ў неўстаноўленыя тэрміны.

Так, ім патрабавалася прадстаўленне ад райЗА даных аб калектывізацыі па становішчу на 1/V—38 г., з высылкай іх к 10/V г.г., у той час як пастановай СНК СССР ад 28/IV г.г. прадстаўленне гэтай справаздачнасці калгасамі ўстаноўлена раз у год—2-га ліпеня, а райЗА ў аблЗУ альбо НКЗ БССР—яшчэ пазней.

Гэта з'яўляецца з боку ўказанага аблЗУ яўным парушэннем пастановы СНК СССР ад 28/IV г.г.

Прапануецца Палескаму аблЗУ з атрыманнем гэтага зараз-жа адмяніць сваё незаконнае распараджэнне і ў далейшым строга прытрымлівацца тэрмінаў, прадугледжаных указанай вышэй пастановай.

Палескаму аблЗУ копію сваёй адносіны аб адмене паказанага распараджэння даслаць УСО НКЗ БССР і УНГУ БССР.

Начальнік УСО НКЗБ **Остаплюк.**

15 мая 1938 г.
№ 13—3—2.

## ЗАГАД № 299

### па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 23 мая 1938 г.*

Участковыя інспектары Шклоўскага раёна Палякоў і Сідляроў, не гледзячы на распараджэнне УНГУ і райінспектуры, правялі праверку завядзення пагаспадарчых кніг у Таўкачоўскім, В.-Лазіцкім і Александрыйскім сельсоветах без падворнага абхода гаспадарак, указаўшы аднак у актах, што праверка зроблена шляхам абхода гаспадарак, чым увялі ў заблуджэнне як райінспектуру, так і УНГУ БССР.

Расцэньваючы такія дзеянні ўчінспектароў Палякова і Сідлярова як вочкаўцірацельства, загадваю: за невыкананне распараджэння УНГУ і райінспектуры аб праверцы завядзення пагаспадарчых кніг у сельсоветах шляхам падворнага абхода гаспадарак і за безадказныя адносіны да гэтай работы аб'явіць учінспектарам Палякову і Сідлярову суровую вымову.

Папярэдзіць учінспектароў Палякова і Сідлярова, што ў выпадку паўтарэння такіх фактаў яны неадкладна будуць зняты з работы і аддадзены пад суд.

В. а. начальніка УНГУ БССР **Абудзееў.**

### Да правядзення ўчота пасеўных плошчаў

Набліжаецца час разгортвання адказных работ, звязаных з учотам пасеўных плошчаў і вызначэннем ураджайнасці.

Практыка мінулых гадоў паказала, што не ўсе звенні органаў Наргасучота ў дастатковай ступені вядуць барацьбу з злоўжываннямі, скажэннямі ўчотнай дысцыпліны і вочкаўціраце́льствам з боку асобных калгасаў, сельсоветаў і райЗА.

Выкарчаванне ахвосця трацкісцка-бухарынскай банды дало магчымасць у значнай ступені палепшыць учотную справу ў калгасах і райЗА.

Не гледзячы на бязлітасную барацьбу партыі і ўрада з усімі антыдзяржаўнымі праявамі на тым ці іншым участку ў галіне ўчота, мы і па сёнешні дзень яшчэ сустракаем грубыя парушэнні ўчотнай дысцыпліны і элементы вочкаўціральства з боку асобных калгасаў, сельсоветаў і райЗА.

Не адзінкавы ў веснавую сяўбу 1938 года факты ўвядзення штодзённай справаздачнасці аб ходзе сяўбы, вусных „дырэктыў" з боку райЗА аб паказанні на 15/V „сканчэння сяўбы" (плана), у той час калі яна далёка яшчэ не скончана (Гарадоцкі раён) і нават нападак на райінспектара з боку кіраўнікоў раёна (Круглянскі раён) за ўскрытае ім значнае вочкаўціральства з боку райЗА.

Маем яшчэ выпадкі складання зводак аб ходзе сяўбы сельсоветамі на падставе тэлефонных перадач без наступных пісьмовых пацверджанняў і г. д.

Такое становішча абавязвае нас прыкласці ашчэ большыя намаганні да канчатковай і хутчэйшай ліквідацыі, па сутнасці, рэшткаў шкодніцтва.

Аднак яшчэ далёка не ўсе райінспектары зразумелі ўсю палітычную важнасць гэтага пытання і не заняліся гэтай справай па-сапраўднаму.

Гэта-ж факт, што УНГУ БССР вымушана па 4-5 раз прапаноўваць правесці праверку становішча аперацыйнай справаздачнасці той ці іншай сельгаскампаніі і ўсё-ж, нарэшце, не ўсе райінспектары вытвараюць гэтыя праверкі.

Кожны райінспектар павінен зразумець, што гэта работа з'яўляецца прамым яго абавязкам і адной з асноўных функцый яго штодзённай работы.

Органы Наргасучота ва ўсей сваёй рабоце і, у прыватнасці, звязанай з ураджайнасцю павінны ўдзяляць асаблівую ўвагу пытанням барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, за павышэнне якасці сельскагаспадарчых работ і ўпарадкаванне ўчота і справаздачнасці ў сельскай гаспадарцы. Райінспектуры і абл. УНГУ павінны ў першую чаргу ставіць сваёй мэтай барацьбу з маючыміся недахопамі непасрэдна на месцах і рашуча дабівацца іх знішчэння.

У гэтых мэтах неабходна арганізаваць сістэматычную праверку хода сельгасработ і правільнасці справаздачных звестак на працягу ўсяго 1938 года.

Пры праверках асаблівую ўвагу звярнуць на выкананне пастановы СНК СССР ад 29/VI 1937 г. „Аб мерах па палепшанню насення зернавых культур", пастановы СНК СССР ад 27/I 1938 г. „Аб дзяржаўным плане сельскагаспадарчых работ на 1938 г.", пастановы СНК СССР ад 19/III 1938 г.

„Аб мерах па павышэнню ўраджайнасці бульбы ў 1938 г.“, пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 23/III 1938 г. „Аб плане кантрактацыі ільну і канопплі ў 1938 г., пастановы СНК СССР ад 3/IV 1938 г. „Аб мерапрыемствах па пад'ёму ўраджайнасці і палепшанню якасці валакна і насення ільнадаўгунца“ і пастановы СНК СССР ад 28/IV 1938 г. „Аб справаздачнасці калгасаў“.

Праверка павінна вытварацца ва ўсіх звеннях праходжання справаздачнасці, пачынаючы ад калгасаў і канчаючы аблЗУ.

Праверку павінны вытвараць: кожны райінспектар—у райЗА і МТС, кожны ўчінспектар—у калгасах, кожны аграном-інспектар—у соўгасах і калгасах.

Участковыя і раённыя інспектары і раз'язныя аграномы абавязаны дабіцца выпраўлення выяўленых імі недахопаў праз праўленні калгасаў (дырэкцыю соўгасаў), рэвізійную камісію, а таксама праз вытворчыя нарады калгаснікаў. Пры немагчымасці дабіцца на месцы ўстаранення выяўленых недахопаў неабходна ставіць пытанне аб іх у вышэйстаячых савецкіх і партыйных органах.

У самыя бліжэйшыя дні пачнецца разгортванне работ па ўчоту пасеўных плошчаў.

К гэтай рабоце райінспектары і ўчінспектары павінны падыйсці поўнасцю падрыхтаванымі і правесці папярэдне шэраг мерапрыемстваў, забяспечваючых паспяховае правядзенне гэтай работы.

Неабходна да сканчэння сяўбы яравых упарадкаваць дакументацыю сартавых пасеваў, забяспечыць складанне актаў прыёмкі аб вытваранай рабоце, знішчыць усе спробы прадстаўлення няправільных звестак аб засеянай плошчы і г. д.

Органы Наргасучота ў гэтым годзе павінны забяспечыць правільны ўчот размеру пасеўных плошчаў пад ураджай 1938 г. і раз назаўсёды пакончыць з блытанінай і варожымі праявамі ў гэтай галіне.

Сектар вызначэння ўраджайнасці **УНГУ БССР.**

## Абавязкі раз'язных інспектароў абласных упраўленняў Наргасучота БССР.

На раз'язных інспектароў абласных УНГУ ўскладаецца абавязак:

1. Правяраць работу раённых і ўчастковых інспектароў у сэнсе якасці правадзімых імі ўчотна-статыстычных работ, паказаных у плане абласных УНГУ, якасць пастаноўкі сельсавецкага ўчота і ўчота ў калгасах; бароцца з незаконнай справаздачнасцю і вочкаўціранцельствам, аналізаваць учот-

на-статыстычныя матэрыялы і сігналізаваць перад кіруючымі органамі раёна.

2. Аказваць садзейнічанне раённаму інспектару па арганізацыі пастаноўкі ўчотна-статыстычных работ і даваць метадалагічныя ўказанні па гэтых работах.

3. Правяраць, як сектары абласнога УНГУ кіруюць райінспектурамі ў адносіне канкрэтнасці інструктыўных указанняў і своечасовасці іх спуска.

4. Спушчаць райінспектарам штомесячна не пазней 25 чысла планы работ на наступны месяц.

5. Сачыць за рэагаваннем з боку начальніка абласнога УНГУ на скаргі раённых і ўчастковых інспектароў, для чаго ў сакратара начальніка абласнога УНГУ павінна быць заведзена рэгістрацыя паступаючых скарг з адзнакай вынікаў рэагавання.

6. Разам з сектарамі абласнога УНГУ праводзіць абследванне становішча ўчота ў абласных арганізацыях.

7. Прымаць удзел у размеркаванні сродкаў на раз'езды райінспектурам.

8. Правяраць арганізацыю пастаноўкі работы ў сектарах абласных УНГУ ў сэнсе правільнасці расстаноўкі работнікаў і іх нагрузкі.

Раз'язныя інспектары будуюць сваю работу на падставе планаў работ, атрымліваемых ад Учотнай інспекцыі УНГУ БССР, і штомесячна інфармуюць Учотную інспекцыю УНГУ БССР аб выкананні імі плана работ.

В. а. начальніка УНГУ БССР **Абудзееў.**
Начальнік учотнай інспекцыі **Магідаў.**

## Пастанова прэзідыума Бабруйскага раённага выканаўчага камітэта

ад 9/V 1938 г.

### Аб выніках праверкі сельсовецкага ўчота ў Хімоўскім Бортнікаўскім і Каменскім сельсоветах.

Заслухаўшы ч. в. а. райінспектара Наргасучота Бабруйскага раёна тав. Кустановіч аб выніках праверкі сельсовецкага ўчота ў Хімоўскім, Бортнікаўскім і Каменскім с/саветах, прэзідыум Бабруйскага раённага выканаўчага камітэта адзначае, што, не гледзячы на ўсю важнасць правільнага вядзення пагаспадарчых кніг, якія з'яўляюцца адным з важнейшых матэрыялаў па падрыхтоўцы да прадстаячага перапісу насельніцтва 1939 г., старшыні і сакратары вышэйадзначаных сельсаветаў не прыдалі належнай увагі гэтай рабоце і пры запаўненні пагаспадарчых кніг дапусцілі цэлы рад наступных памылак і недахопаў: 1) меліся пропускі членаў сямей і цэлых гаспадарак, 2) не ўказвалася

спецыяльнасць кожнага з членаў сям'і, 3) няправільна ўказваліся адукацыя і ўзрост, 4) несвоечасова адзначаліся змены аб нарадзіўшыхся, памёршых, прыбыўшых і ўбыўшых.

Выходзячы з гэтага, прэзідыум Бабруйскага РВК пастанаўляе:

1. Старшыням і сакратарам вышэйадзначаных с/советаў тт. Снігірову і Цішкову (Хімаўскі с/с), Цэду і Шчаглову (Бортнікаўскі с/совет), Балдзенка і Ханяку (Каменскі с/совет) у сувязі з тым, што ўсе выяўленыя пры праверцы недахопы ў завядзенні пагаспадарчых кніг выпраўляліся ўчастковымі інспектарамі Наргасучота на месцы праверкі, надалей прапанаваць своечасова і правільна адзначаць у пагаспадарчых кнігах сістэматычна адбываючыяся змены, як-та: нараджэнні, смерці, прыбыцці і ўбыцці.

2. Прапанаваць старшыням і сакратарам усіх сельсоветаў праверыць праведзены імі ўчот па пагаспадарчых кнігах з тым, каб у самы найкарацейшы тэрмін былі выпраўлены ўсе недахопы, і ў далейшым своечасова адзначаць усе адбываючыяся змены, а таксама не пазней 1-га чэрвеня разнесці па кнігах жывёлу па становішчу на 1/I 1938 г. па матэрыялах райінспектуры Наргасучота.

3. Папярэдзіць старшынь і сакратароў сельсоветаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за правільнае вядзенне пагаспадарчых кніг у сельсоветах.

## Выпіска з пратакола паседжання прэзідыума Гарадоцкага райвыканкома

*Ад 22/V 1938 г.*

Слухалі:

Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы да прадстаячага перапісу насельніцтва 1939 г. (дакладчык т. *Малахаў*).

Пастанавілі:

Праверкай участковымі інспектарамі пярвічнага сельсавецкага ўчота па 5 сельсоветах: Александраўскаму, Вайханскаму, Болецкаму, Вышадскаму і часткі Пальмінскага сельсовета ўстаноўлена, што ўчот пастаўлен дрэнна, маюцца пропускі гаспадарак і насельніцтва ў пагаспадарчых кнігах, што пагражае зрывам перапісу насельніцтва і паўтарэннем памылак перапісу насельніцтва 1937 года.

Выходзячы з гэтага, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Усім старшыням сельсоветаў, пад іх асабістую адказнасць вылучыць з сельсовецкага актыва 4-5 чалавек у дапамогу ўчастковым інспектарам для праверкі і ўдакладнення пагаспадарчых кніг пярвічнага сельсовецкага ўчота.

2. Акты праверкі павінны быць складзены ў 3-х экземплярах: адзін—старшыні РВК, другі—старшыні сельсовета і трэці—НГУ для ўнясення папраўкі ў спісы населеных месц.

3. Выклікаць 5-6 старшынь сельсоветаў на прэзідыум РВК для справаздачы аб праробленай рабоце і становішчы пярвічнага сельсовецкага ўчота.

4. Адзначыць, што горсовет не выконвае пастановы прэзідыума РВК ад 5/II 1938 г. у адносіне ўпарадкавання нумарацыі дамоў, кватэр і г. д., а пагэтаму прапанаваць горсовету к 2/VI 1938 г. упарадкаваць нумарацыю дамоў, кватэр і вылучыць людзей для праверкі спісаў домаўладанняў.

5. У змену пункта першага пастановы прэзідыума РВК ад 5/II 1938 г. устанавіць гарадскую чарту горада Гарадка ў граніцах населеных месц:

1. Усходні бок—пасады Чубанава, Латышоўка і Бяленкі.

2. Паўднёвы бок—пасады Бярозаўка і Пімчанкі.

3. Заходні бок—пасады Міхаленкі і Весялуха.

4. Паўночны бок—вёскі Сураўні, М. Прудок, Б. Прудок, Верацея III—па чыгунцы.

6. Прапанаваць горсовету завесці пагаспадарчыя кнігі на калгаснікаў калгаса імя Крупскай і на насельніцтва, знаходзячаеся на тэрыторыі гарадской мяжы.

7. 3/VI 1938 г. паставіць даклад райінспектара НГУ аб праробленай рабоце па ўдакладненню ўчота.

## Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва работнікаў Полацкай райінспектуры з работнікамі Расонскай райінспектуры Наргасучота па правядзенню падрыхтоўчых работ да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года і правядзенню самога перапісу

Улічваючы ўсю важнасць і гаспадарча-палітычнае значэнне прадстаячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года і маючы на ўвазе, што высокая якасць падрыхтоўчых работ з'яўляецца адной з асноўных умоў паспяховага правядзення перапісу насельніцтва, мы, работнікі Полацкай інспектуры Наргасучота, уключаемся ў соцыялістычнае спаборніцтва і канкрэтна бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Падабраць правераныя ў палітычных і дзелавых адносінах масавыя кадры па перапісу насельніцтва ва ўстаноўлены ЦУНХУ і УНГУ тэрмін.

2. Забяспечыць выдатную якасць, у сэнсе паўнаты і дасканальнасці, спісаў населеных месц, для чаго да 10 чэрвеня правесці праверку ва ўсіх сельсоветах населеных месц у натуры.

3. Арганізаваць соцспаборніцтва паміж участковымі інспектарамі.

4. Своечасова і ўзорна арганізаваць інструктаж кадраў па перапісу насельніцтва і правесці ва ўстаноўлены ЦУНХУ і УНГУ тэрмін.

5. Завесці ўчот на ўсіх участках і сістэматычны нагляд за становішчам населеных месц сельсовета і забяспечыць своечасовае ўнясенне змен па складу насельніцтва ў пагаспадарчыя кнігі сельсоветаў.

6. Да 15 чэрвеня скласці брыгады садзейнічання перапісу насельніцтва ва ўсіх сельсоветах, соўгасах і калгасах, а пры райвыканкоме—раённую брыгаду садзейнічання. Адначасова правесці інструктаж брыгад садзейнічання аб іх задачах і дапамозе інспектуры і ўчастковым інспектарам па падрыхтоўцы перапісу насельніцтва.

7. У мэтах удасканалення раённага оргплана перапісу насельніцтва, у лістападзе месяцы 1938 года ўчастковым інспектарам і райінспектуры НГУ шляхам суцэльнага абхода зверыць оргплан з наяўнасцю населеных пунктаў у натуры.

8. Своечасова і па якасці не ніжэй як на „добра" правесці ўсе падрыхтоўчыя работы да перапісу насельніцтва.

9. Праз участковых інспектароў своечасова і добра забяспечыць разгортванне сярод насельніцтва масава-палітычнай работы па растлумачэнню задач, стаячых па правядзенню перапісу насельніцтва, забяспечыўшы правядзенне сходаў, гутарак і г. д. у кожным калгасе, населеным пункце, прадпрыемстве, школе і г. д., а таксама забяспечыць сельсоветы своечасовай дасылкай агітматэрыялаў па правядзенню перапісу насельніцтва.

10. Правесці перапіс насельніцтва на „выдатна" і дакладна ў тэрмін, які будзе ўстаноўлен ўрадам.

Дагавор гэты мае дзейнасць да канца перапісу і здачы папярэдніх вынікаў.

Па сканчэнні кожнага месяца праводзіць праверку выканання дагавора пры ўдзеле абодвух бакоў.

Арбітрам просім быць Бюро перапісу насельніцтва УНГУ і Бюро перапісу абласнога УНГУ.

Райінспектар **Дзяго**.
Эканаміст **Любчык**.
Інструктар-статыстык **Бім**.
Участковыя інспектары **Карпенак, Дзюбанаў, Голубеў**.

## Соцдагавор райінспектуры Наргасучота Клімавіцкага раёна

Для вывучэння ўмоў жыцця калгаснікаў Упраўленне наргасучота БССР праводзіць бюджэтныя запісы калгаснікаў у некаторых раёнах БССР. У нашым раёне вядуцца бюджэтныя запісы ў 2-х сельсоветах.

На кіраўніцтва райінспектуры кладзецца адказнейшая задача—добраякасна і своечасова правесці даную работу.

Улічваючы ўсю важнасць правадзімай работы, інспектура НГУ Клімавіцкага раёна бярэ на сябе абавязак на лепшую арганізацыю і правядзенне работы па бюджэтах калгаснікаў у 1938 годзе па наступных пунктах:

1. Сістэматычна весці растлумачальную работу сярод калгаснікаў шляхам выезда ўчастковых інспектароў і райінспектара на месца ў гнёзды.

2. Сачыць за своечасовым выхадам гнёздавых інструктароў на абследванне і наведванне калгаснікаў.

3. Дабіцца 100-проц. вядзення запісаў самімі калгаснікамі, для чаго наведванні калгаснікаў гнёздавымі інструктарамі павінны быць не менш 3-х разоў у месяц.

4. Высылаць матэрыялы ў наступныя тэрміны: па першаму калгасу 4-га чысла кожнага месяца, па другому—7-га і па 3-му—9-га кожнага месяца.

5. Штомесячна праводзіць нараду гнёздавых інструктароў сумесна з работнікамі райінспектуры.

На соцспаборніцтва па выкананню вышэйпаказаных пунктаў соцдагавора выклікаем Суражскую і Дрысенскую райінспектуры.

По даручэнню работнікаў райінспектуры **Давыдаў.**

## ПАСТАНОВА № 934

## Совета народных камісараў БССР

*20 красавіка 1938 г.* *г. Менск.*

### Аб перыядычнай аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці НК асветы БССР на 1938 г.

Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

Прадстаўлены НКАсветы БССР і ўзгоднены з Упраўленнем наргасучота БССР табель форм перыядычнай аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці на 1938 год па ўстановах народнай асветы БССР зацвердзіць.

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР **І. Захараў.**
Кіраўнік спраў Совета народных камісараў БССР **М. Манышаў.**

## Табель форм перыядычнай аперацыйна-статыстычнай справаздачнасці Наркомасветы БССР на 1938 год

| №№ форм | Назва форм справаздачнасці | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлення | Лік паказчыкаў (графа-клетак) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **I. Установы дашкольнага выхавання ўсіх тыпаў** | | | | | | |
| А-I | Гадавая справаздача дзіцячага сада на 1 студзеня 1938 г. | Загадчык дзіцячага сада | Рай(гор)АНА у 2 экз. | 1 раз у год | 15/I—38 г. | Поштай | 15 |
| А-II | Учотная картка на летнюю дзіцячую пляцоўку[1] | Загадчык дзіцячай пляцоўкі | " | " | " | " | |
| | **II. Школы** | | | | | | |
| А-III | Гадавая справаздача школы за 1937-38 навучальны год | Дырэктар (загадчык школы) | " | " | У 10-дзённы тэрмін пасля сканчэння навучальн. года | " | 246 |
| А-IV | Справаздача аб выніках прыёма ў школу на пачатак 1938-39 навучальнага года[1]) | " | " | " | | " | |
| | Звесткі аб учоце дзяцей, падлягаючых усеагульнаму абавязковаму навучанню[1]) | " | " | " | | " | |
| | Звесткі аб падрыхтоўцы школы да 1938-39 навучальнага года[1]) | " | Рай(гор)АНА | 1 раз у год | | " | |
| | Звесткі аб паспяховасці ў школе[1]) | " | " | " | | " | |

(Працяг)

| №№ форм | Назва форм справаздачнасці | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлення | Лік паказчыкаў (графа-клетак) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **III. Вячэрнія школы дарослых** | | | | | | |
| В-II | Справаздача школы дарослых павышанага тыпу за 1937/38 навучальны год | Загадчык школы | Рай(гор)АНА у 2-х экз. | 1 раз у год | У 10-дзённы тэрмін пасля сканчэння заняткаў | Поштай | 71 |
| | Зводка аб выніках іспытаў па школе дарослых | " | " | " | 20/V-23/VI—38 | " | 132 |
| | Справаздача аб выніках прыёма ў школу дарослых павышанага тыпу на пачатак 1938-39 навучальнага года | " | " | " | У 10-дзённы тэрмін пасля пачатку заняткаў | " | |
| | Справаздача аб ходзе заняткаў у школе дарослых [1]) | " | " | " | | " | |
| В-III | Гадавая справаздача масавай бібліятэкі за 1937 г. | Загадчык бібліятэкі | " | " | 10/I—38 г. | " | 42 |
| В-IV | Гадавая справаздача клубных устаноў на 1 студзеня 1938 г. | Загадчык клуба | " | " | " | " | 46 |
| В-II | Справаздача аб колькасці работнікаў і выдаткаванні фондаў зарплаты ўстановамі мясцовага бюджэта | Загадчык установы | РайАНА у 1 экз. | Пакварτальна | 5/I, 5/IV, 5/VII, 5/X | " | |
| | Спіс настаўнікаў ПШ, НСШ і СШ на 1 студзеня 1938 г. [2]) | Загадчык райАНА | НКАсветы | 1 раз у год | 20/I—38 г. | " | 16 |

(Працяг)

| №№ форм | Назга форм справаздачнасці | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлення | Лік паказчыкаў (графа-клетак) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **IV. ВНУ, педрабфакі, педвучылішчы** | | | | | | |
| | Тэрміновае данясенне аб ходзе набора | Дырэктар | НКАсветы | У перыяд набора | На другі дзень пасля сканчэння прыёма заяў | Тэлеграфна | |
| | Тэрміновае данясенне аб выніках іспытаў | » | » | У перыяд іспытаў | На другі дзень пасля сканчэння іспытаў | » | |
| Б-VIII | Гадавая справаздача ВНУ за 1937 г.[4]) | » | » | 1 раз у год | 1/II—38 г. | Поштай | |
| | Справаздача ВНУ на пачатак 1938-39 навучальнага года[3]) | » | » | » | | » | |
| Б-XI | Квартальная і гадавая (за 1937 г.) справаздача па курсах падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі спецыялістаў | » | Інстытуту павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы | Гадавая за 1937 г. і квартальна | 20/I—38 г. і праз 10 дзён пасля сканчэння квартала | » | |
| Б-XII | Гадавая справаздача па завочнай падрыхтоўцы за 1937 г. | » | » | 1 раз у год | 1/II—38 г. | » | |
| | Справаздача аб ходзе завочнага навучання | » | » | Па семестрах | Не пазней 10 числа месяца, наступнага за справаздачным семестрам | » | 144 |

(Працяг)

| №№ форм | Назва форм справаздачнасці | Хто прадстаўляе | Каму прад-стаўляецца | Перыядыч-насць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаў-лення | Лік паказ-чыкаў(гра-фа-клетак) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Е-IХ | Гадавая справаздача тэхнікума і рабфака за 1937 год | Дырэктар | НКАсветы у 1 экз. | 1 раз у год | 1/II—38 г. | Поштай | |
| | V. Дзіцячыя дамы сістэмы НКАсветы | | | | | | |
| А-V | Гадавая справаздача на 1/I—38 г. | Загадчык дзіцячага дома | НКАсветы у 2-х экз. | „ | 15/I—38 г. | „ | 42 |
| В-V | Гадавая справаздача музеяў за 1937 год | Дырэктар музея | „ | „ | 10/I—38 г. | „ | |
| | Гадавая справаздача навукова-даследчай установы за 1937 г. | Дырэктар установы | „ | „ | 1/II—38 г. | „ | |
| 8-П | Справаздача аб колькасці работнікаў і выдаткаванні фондаў зарплаты дзяржбюджэтных устаноў | „ | НКАсветы у 1 экз. | Пакварта-льна | 5/I, 5/IV, 5/VII, 5/X 1938 г. | „ | |
| 13 | Справаздача аб капітальных укладаннях па дзяржаўнаму бюджэту | Дырэктар установы (забудоўшчык на пляцоўцы) | УНГУ БССР, НКА БССР і Банку | Штомесячна | Не пазней 7 числа месяца, наступнага за справаздачным | „ | |
| | Звесткі аб сантэхабсталяванні будынкаў НКАсветы БССР | Загадчык установы | Будупраўл. НКА БССР | Разавая | 10/IV—38 г. | „ | |

(Працяг)

| №№ форм | Назва форм справаздачнасці | Хто прадстаўляе | Каму прадстаўляецца | Перыядычнасць | Тэрмін прадстаўлення | Спосаб прадстаўлення | Лік паказчыкаў (графа-клетак) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зводка на асоб, якія прайшлі атэстацыю на званне настаўніка | Старшыня атэстацыйнай камісіі | НКАсветы у 2-х экз. | Разавая | Не пазней 3-х дзён па сканчэнні работы атэстацыйнай камісіі | Поштай | |
| | Зводка на асоб, якія прайшлі перагляд атэстацыі | » | » | » | » | » | |

[1]) Формы з паказаннем перыядычнасці, тэрмінаў прадстаўлення і ліку паказчыкаў будуць дасланы ў рай(гор)АНА для рассылкі ўстановам па зацверджанні УНГУ СССР.

[2]) Усе іншыя формы райвыканкомаўскай справаздачнасці знаходзяцца на зацверджанні ў СНК СССР. Да зацверджання іх урадам дзейнічае справаздачнасць, зацверджаная раней.

[3]) Формы будуць дасланы па зацверджанні іх на 1938 год ЦУНХУ пры Дзяржплане СССР.

[4]) Усе формы, зацверджаныя ЦУНХУ пры Дзяржплане СССР, акрамя паказаных у табелі адрасоў, дасылаюцца ва ўсе адрасы, пералічаныя у інструкцыях на саміх формах.

Зацверджана УНГУ БССР 13 красавіка 1938 г., № 22

## Пералік форм перыядычнай і разавай справаздачнасці па Наркамсабезу БССР на 1938 г.

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па скканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **I. Соцыяльнае забеспячэнне** | | | | | | | |
| Справаздача аб руху пенсіянераў працы | Поштай | 1 | Кварт. | Рай(гор)аддз. соцзабеспяч.[1] | Абл. аддзелу соцзабеспячэн. | Праз 5 дзён пасля справаздачнага квартала | |
| | | | | Абл. аддз. соцзабеспячэння | 1. НКСЗ БССР 2. Абл. УНГУ | Праз 15 дзён пасля справаздачнага квартала | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 20 дзён пасля справаздачнага квартала | 54 |
| Справаздача аб колькасці пенсіянераў працы, састаячых на ўчоце аддзела соцзабеспячэння: а) на атрымліваючых пенсію праз органы соцзабеспячэння | „ | 2 | „ | Рай(гор)аддз. соцзабеспячэн. | Абл. аддзелу соцзабеспячэн. | Праз 5 дзён пасля справаздачнага квартала | |
| | | | | Абл. аддзел. соцзабеспячэн. | 1. НКСЗ БССР 2. Абл. УНГУ | Праз 15 дзён пасля справаздачнага квартала | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 20 дзён пасля справаздачнага квартала | 33 |

[1]) Формы справаздачнасці РВК знаходзяцца на зацверджанні Ўрада. Да зацверджання іх урадам дзейнічае справаздачнасць, зацверджаная раней.

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| б) на атрымліваючых пенсію праз прадпрыемствы і ўстановы | Поштай | 2 | За год | Рай(гор)аддз. соцзабеспячэн. | Абл. аддзелу соцзабеспячэн. | Праз 15 дзён пасля справаздачнага года | |
| | | | | Абл. аддз. соцзабеспячэння | 1. НКСЗ БССР 2. Абл. УНГУ | Праз 25 дзён пасля справаздачнага года | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 30 дзён па сканчэнні справаздачнага года | |
| Справаздача аб пенсіяніраванні пенсіянераў соцзабеспячэн. (акрамя інвалідаў працы) | „ | 3 | За паўгоддзе | Рай(гор)аддз. соцзабеспяч. | Абл. аддзелу соцзабеспячэн. | Праз 10 дзён пасля справаздачнага паўгоддзя | |
| | | | | Абл. аддз. соцзабеспячэння | 1. НКСЗ БССР 2. Абл. УНГУ | Праз 20 дзён пасля справаздачнага паўгоддзя | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 25 дзён пасля справаздачн. перыяда | |
| Спіс пенсіянераў, састаячых на ўчоце органаў соцзабеспячэння і атрымліваючых пенсію праз прадпрыемствы (установы) | | 4 | 1 раз у год на 1 ліпеня | ФЗМК профсаюзаў | 1. Рай(гор)аддз. соцзабеспяч. 2) Абл. камітэту альбо ЦК саюза | Праз 5 дзён пасля справаздачн. перыяда | 9 |
| Справаздача дома інвалідаў | | 5 | Кварт. | Домам інвалідаў | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Праз 5 дзён пасля справаздачн. квартала | 12 |
| Зводная справаздача дома інвалідаў | | 5-зв | „ | Абл. аддзел. соцзабеспяч. | НКСЗ БССР | Праз 20 дзён пасля справаздачн. квартала | 72 |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па скончэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гадавая справаздача дома інвалідаў за 1937 год | Поштай | 6 | За год | Домам інвалідаў | НКСЗ БССР | Не пазней 15 сакавіка 1938 г. | 60 |
| Зводная гадавая справаздача дамоў інвалідаў за 1937 г. | » | 6-зв | » | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Не пазней 20 сакавіка 1938 г. | 72 |
| Справаздача дзіцячага дома для фізічна-дэфектыўных дзяцей за 1937 г. | » | 7 | » | Дзіцячым домам у 2-х экз. | НКСЗ БССР | Не пазней 15 сакавіка 1938 г. | 89 |
| Справаздача дзіцячага дома змешанага тыпу за 1937 год | » | 7-в | » | Дзіцячым домам у 2-х экз. | НКСЗ БССР | Не пазней 15 сакавіка 1938 г. | |
| Поўгадавая справаздача дзіцячага дома | » | 7-г | За паўгоддзе | Дзіцячым домам | Абл. аддз. соцзабеспячэн. | Праз 5 дзён пасля справаздачнага паўгоддзя | 6 |
| | | | » | Абл. аддз. соцзабеспячэн. | НКСЗ БССР | Праз 20 дзён пасля справаздачнага паўгоддзя | |
| Справаздача ўрачэбна-працоўнай экспертнай камісіі аб ліку праведзеных экспертыз і выніках асвідзецельствавання | » | 8 | Квартальная | ВТЭК | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Праз 5 дзён пасля справаздачн. квартала | 64 |
| | | | | Абл. аддзел. соцзабеспяч. | НКСЗ БССР | Праз 15 дзён пасля справаздачн. квартала | |
| | | | Гадавая | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 30 дзён пасля справаздачнага года | |
| Справаздача аб працустройстве інвалідаў | » | 9 | Квартальная | Рай(гор)аддзел. соцзабеспяч. | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Праз 10 дзён пасля справаздачн. квартала | 56 |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Справаздача аб працустройстве інвалідаў | Поштай | 9 | Квартальная | Абл. аддзел. соцзабесп. | 1. НКСЗ БССР 2. Абл. УНГУ | Праз 20 дзён пасля справаздачн. квартала | 56 |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | Праз 25 дзён пасля справаздачн. квартала | |
| Справаздача аб непрацуючых інвалідах працы (ад агульных захворванняў) | " | | Адначасова на 1/VII-38 г. | Абл. аддзел. соцзабесп. | НКСЗ БССР | 20/VIII 1938 г. | |
| а) аб размеркаванні непрацуючых інвалідаў працы ад агульных захворванняў па размерах назначанай пенсіі | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | 10/IX 1938 г. | |
| б) аб размеркаванні непрацуючых інвалідаў працы па ўзросту, полу і групе інваліднасці | | | | | | | |
| в) тое-ж самае па ўзросту і году залічэння на пенсію | | | | | | | |
| г) аб размеркаванні інвалідаў працы і сямей памёршых ад агульных захворванняў па размерах зарплаты да залічэння на пенсію і катэгорыі забеспячэння | | | | | | | |
| д) аб размеркаванні сямей застрахаваных, памёршых ад агульных захворванняў, па ліку членаў сям'і і году залічэння на пенсію | | | | | | | |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць пакавачык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Учот працуючых пенсіянераў працы і непрацуючых інвалідаў (усіх катэгорый, акрамя інвалідаў, памёршых ад агульных захворванняў) | Поштай | | Адначасова на 1/VII-38 г. | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | 20/IX 1938 г. | |
| Учот пенсіянераў працы, залічаных на пенсію ў 1937 г. | " | | " | НКСЗ БССР | УНХУ БССР | 10/V 1938 г. | |
| а) лік пенсіянераў, залічаных на пенсію за 1937 г. па відах пенсіі | | | | | | | |
| б) размеркаванне пенсіянераў працы, залічаных на пенсію за 1937 г. па ўзросту і працоўнаму стажу | | | | | | | |
| **II. Фінансы** | | | | | | | |
| Фінстатсправаздача па сродках пенсіяніравання, адпускаемых па дзяржбюджэту. | " | 3-ф | Квартальная | Рай(гор)аддз. соцзабеспяч. | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Не пазней 10 чысла пасля справаздачнага квартала | |
| | | | " | Абл. аддзел. соцзабеспяч. | НКСЗ БССР | Праз 15 дзён пасля справаздачнага квартала | |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **III. Цэнтр. камітэт сельскіх таварыстваў узаемадапамогі** | | | | | | | |
| Фінстатсправаздача аб рабоце касы грамадскай узаемадапамогі | Поштай | 3-ф | Квартальная | Калгасн. касай узаемадапамогі | Рай(гор)сабезу | Не пазней 5 числа пасля справаздачнага квартала | |
| | | | » | Рай(гор)аддзел. соцзабеспяч. | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Не пазней 10 числа пасля справаздачнага квартала | |
| | | | » | Абл. аддзелам соцзабеспяч. | НКСЗ БССР | Праз 15 дзён пасля справаздачн. квартала | |
| Фінстатсправаздача па сродках 5% адлічэння касе грамадскай узаемадапамогі | » | » | » | Рай(гор)аддзел. соцзабеспяч. | Абл. аддзелу соцзабеспяч. | Не пазней 10 числа пасля справаздачнага квартала | |
| | | | » | Абл. аддзел. соцзабеспяч. | НКСЗ БССР | Праз 15 дзён пасля справаздачн. квартала | |
| **IV. Вытворчасць** | | | | | | | |
| Дэкадная зводка выпуску прадукцыі | » | | За дэкаду | Прадпрыемствы БАГ і БТС | БАГ і БТС | 1, 11, 21 числа кожнага месяца | 10 |
| | | | » | БАГ і БТС (зводную) | НКСЗ БССР | 6, 16, 26 числа кожнага месяца | |
| | | | » | Прадпрыемствы, падпарадкаваныя непасрэдна НКСЗ БССР | НКСЗ БССР | 1, 11, 21 числа кожнага месяца | |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | №№ форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па скончэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Скарочаная штомесячная справаздача аб выкананні вытворчай праграмы па асноўных паказчыках работы | Поштай | 1-а | Месячная | Прадпрыемст. БАГ і БТС | БАГ і БТС, абл. аддз. СЗ і гор(рай)-інспектару Наргасучота | 5 числа месяца, наступнага за справаздачным | 188 |
| | | | | БАГ і БТС (зводную) | НКСЗ БССР | 10 числа месяца, наступнага за справаздачным | |
| | | | | Прадпрыемствы, падпарадкаваныя непасрэдна НКСЗ БССР | Абл аддзел. СЗ, НКСЗ БССР і гор-(рай)інспектару Наргасучота | 5 числа месяца, наступнага за справаздачным | |
| Скарочаная штомесячная справаздача аб выкананні плана па асноўных паказчыках работы | " | 2-а | " | Прадпрыемст. БАГ і БТС | БАГ і БТС—Абл. аддз. СЗ і гор(рай)-інспектару Наргасучота | 15 числа месяца, наступнага за справаздачным | 126 |
| | | | | БАГ і БТС (зводную) | НКСЗ БССР | 20 числа месяца, наступнага за справаздачным | |
| | | | | Прадпрыемствы, падпарадкаваныя непасрэдна НКСЗ БССР | НКСЗ БССР, Абл. аддз. СЗ і гор(рай)-інспектару Наргасучота | 15 числа месяца, наступнага за справаздачным | |
| **V. Тавараразварот** | | | | | | | |
| Справаздача аб выкарыстанні таварнай прадукцыі | " | 1 | Квартальная | Прадпрыемст. БАГ і БТС | БАГ і БТС | На 5 дзень пасля справаздачн. квартала | 132 |
| | | | | Прадпрыемствы, падпарадкаваныя непасрэдна НКСЗ БССР | НКСЗ БССР | На 5 дзень пасля справаздачн. квартала | |

(Працяг)

| Назва форм справаздачнасці | Спосаб адсылкі справаздачы | № форм | За які перыяд справазд. прадстаўляецца | Кім справаздача складаецца | Каму справаздача прадстаўляецца | На які дзень па сканчэнні справаздачнага перыяда справаздача адсылаецца | Колькасць паказчык. (гр.-клет.) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Справаздача аб выкарыстанні таварнай прадукцыі | Поштай | 1 | Квартальная | БАГ і БТС | НКСЗ БССР | На 10 дзень пасля справаздачн. квартала | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | На 15 дзень пасля справаздачн. квартала | |
| Справаздача аб аптовай рэалізацыі рыначнага фонда | „ | 2 | „ | Прадпрыемст. БАГ і БТС | БАГ і БТС | На 5 дзень пасля справаздачн. квартала | 165 |
| | | | | Прадпрыемствы, падпарадкаваныя непасрэдна НКСЗ БССР | НКСЗ БССР | На 5 дзень пасля справаздачн. квартала | |
| | | | | БАГ і БТС (зводную) | НКСЗ БССР | На 10 дзень пасля справаздачн. квартала | |
| | | | | НКСЗ БССР | УНГУ БССР | На 15 дзень пасля справаздачн. квартала | |

Заўвагі: Пералік форм справаздачнасці па сістеме Белкаапінсаюза будзе зацверджан дадаткова па прадстаўленні ў УНГУ БССР праекта форм справаздачнасці для Белкаапінсаюза.

Акрамя таго, на ўстановы і органы СЗ распаўсюджваюцца наступныя віды справаздачнасці, складаемай і прадстаўляемай у парадку, па тыпавых формах і ў тэрміны, указаныя на адпаведных формах:

1. Справаздача аб колькасці работнікаў і выдаткаванні фондаў зарплаты (форма № 8) (домы інвалідаў, дзетдомы, ВТЭК).
2. Справаздачнасць па капітальных укладаннях: ф. № 13 альбо 13 (скарочаная), 13 (квартальная), 2 б і № 4. Прадстаўляюць прадпрыемствы, установы і арганізацыі сістэмы НКСЗ БССР, праводзячыя капітальныя работы.
3. Справаздачнасць па падсобнай сельскай гаспадарцы.

## Старшыні Менскага райвыканкома

Падрыхтоўчыя работы да перапісу насельніцтва 1939 г. па Менскаму раёну знаходзяцца ў яўна нездавальняючым становішчы і ставяць пад пагрозу зрыву паспяховае правядзенне перапісу насельніцтва.

Складзеныя спісы населеных месц і спісы домаўладанняў паказваюць недаўчот гаспадарак і насельніцтва.

Праведзеная праверка запаўнення пагаспадарчых кніг у Ратамскім, Дабрынеўскім, Бароўскім і іншых сельсоветах паказала, што запаўненне кніг сельсоветам і праведзена ў радзе выпадкаў фармальна, нядбайна і няпоўна, з дапушчэннем пропуска гаспадарак і насельніцтва.

У мэтах найбольш хуткага ўстаранення паказаных недахопаў прапаную:

1. Неадкладна мабілізаваць у дапамогу райінспектару Наргасучота для правядзення суцэльнай праверкі пагаспадарчых кніг, спісаў населеных месц і спісаў домаўладанняў раённы і сельсовецкі актыў з такім разлікам, каб закончыць гэту работу к 5 чэрвеня 1938 года.

2. Для забеспячэння своечасовага і найбольш добраякаснага правядзення гэтай работы неадкладна звярнуць райінспектуры Наргасучота мабілізаваную райвыканкомам аўтамашыну.

3. Заслухаць на бліжэйшым пасяджэнні прэзідыума райвыканкома пытанне аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па Менскаму раёну і прыняць рашучыя меры да карэннага палепшання падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва.

Аб выкананні гэтага ўказання далажыць мне 21 мая г.г.

Старшыня оргкамітэта ЦВК БССР Менскай вобласці **Кулагін.**

16/V 1938 года.

## Старшыням райвыканкомаў і горсоветаў Менскай вобласці

Не гледзячы на ўсю важнасць і палітычна-гаспадарчае значэнне прадстаячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года, а таксама не гледзячы на пастанову СНК БССР ад 21/XII 1937 года за № 2970, абавязваючую райвыканкомы і горсоветы правесці рад мерапрыемстваў па забеспячэнню своечасовай і добраякаснай падрыхтоўкі да перапісу, усё-ж многія раёны паказаную вышэй пастанову ў жыццё не пра-

вялі, і справу па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва пусцілі на самацёк, усклаўшы ўсю цяжкасць падрыхтоўчых работ выключна на апараты рай(гор)інспектуры НГУ, або ў лепшым выпадку выносячы пастановы, не забяспечыўшы далейшага кантроля за іх выкананнем.

У выніку такіх безадказных адносін з боку шэрагу райвыканкомаў і горсоветаў, справа падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва па раду раёнаў і гарадоў знаходзіцца ў яўна нездавальняючым становішчы (Менскі, Пухавіцкі, Заслаўскі, Бягомльскі і інш. раёны).

У большасці раёнаў да сучаснага моманта не ва ўсіх сельсоветах закончана завядзенне пагаспадарчых кніг (Пухавіцкі, Бягомльскі, Крупскі і інш. раёны), а там, дзе пагаспадарчыя кнігі і заведзены, да іх запаўнення сельсоветы аднесліся фармальна, у выніку чаго дапушчаны пропускі (па Смалявіцкаму раёну, у Слабоцкім с/совеце, прапушчан пасёлак „Лужок"—9 гаспадарак з 57 чал. насельніцтва; па Старадарожскаму раёну, у Крынкаўскім с/совеце, прапушчан населены пункт Майсеевіцкая школа; у Н-Дарожскім с/совеце, прапушчана ўсадзьба „Х год Окцябра"; у Заслаўскім раёне па Сталінскаму с/совету прапушчана 47 гаспадарак—257 чал. насельніцтва, і інш.).

Не гледзячы на тое, што спісы населеных месц з'яўляюцца асноўным кантраліруючым матэрыялам паўнаты правядзення прадстячага перапісу насельніцтва і не гледзячы на тое, што старшыні с/советаў персанальна, у аднолькавай ступені з работнікамі Наргасучота, адказваюць за правільнасць складання спісаў населеных месц, усё-ж значная частка старшынь сельсоветаў да складання спісаў населеных месц аднеслася чыста фармальна, абмяжоўваючыся толькі подпісамі, не прымаючы ўдзелу ў складанні такавых і не правяраючы іх, што прывяло ў некаторых раёнах да складання абсалютна няверных спісаў (Пухавіцкі, Заслаўскі і інш. раёны).

Паказаныя вышэй факты сведчаць аб недаацэнцы падрыхтоўчых работ да перапісу і адсутнічанні кантроля і кіраўніцтва райвыканкомамі і горсоветамі—райгорінспектур НГУ, а таксама сведчыць аб тым, што райвыканкомы і горсоветы не атрымалі ўрокаў са шкодніцка-праведзенага перапісу насельніцтва 1937 года.

У мэтах найбольш хутчэйшай ліквідацыі паказаных недахопаў, оргкамітэт абавязвае:

1. Неадкладна мабілізаваць раённы і сельсовецкі актыў у дапамогу райінспектарам Наргасучота для правядзення суцэльнай праверкі, шляхам падворнага абхода, правільнасці завядзення пагаспадарчых кніг, спісаў населеных

месц і спісаў домаўладанняў у гарадах з такім разлікам, каб скончыць указаную работу да 10-га чэрвеня 1938 года.

2. Прыняць меры да неадкладнага забеспячэння рай(гор)інспектур Наргасучота усім неабходным картаграфічным матэрыялам у адпаведнасці з пастановай СНК БССР ад 21/XII 1937 г. за № 2970 (райкартамі, агульнымі планамі гарадоў і горпаселішч, а па гарадах Менск, Слуцк, і Бэрысаў—таксама і паквартальнымі планамі).

3. У самы кароткі тэрмін (на працягу 4-5 дзён) пастановамі райвыканкомаў і горсоветаў зацвердзіць гарадскую мяжу гарадоў і горпаселішч, аб чым выдаць адпаведныя даведкі рай(гор)інспектарам Наргасучота.

4. Заслухаць на бліжэйшым паседжанні прэзідыумаў райвыканкомаў і горсоветаў пытанне аб ходзе падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па раёну (гораду), прыняўшы рашучыя канкрэтныя мерапрыемствы да карэннага палепшання падрыхтоўчых работ да перапісу.

Аб прынятых мерах інфарміруйце не пазней 1/VI 1938 г.

Старшыня оргкамітэта ЦВК БССР Менскай вобласці Кулагін.

## Райінспектарам Наргасучота Менскай вобласці

У сувязі з тым, што ў большасці дасланых актаў па праверцы падворным абходам пагаспадарчых кніг у сельсоветах не паказана канкрэтна, колькі прапушчана жылых будынкаў, гаспадарак і насельніцтва і не паказваюцца канкрэтна населеныя месцы, дзе выяўлены пропускі, абласное бюро перапісу насельніцтва прапануе з атрыманнем гэтага паведаміць аб усіх выяўленых пропусках населеных месц, гаспадарак і насельніцтва па наступнай форме:

| Назва сельсовета і населеных месц | Выяўлена пропускаў | | |
|---|---|---|---|
| | жылых будынкаў | гаспадарак | насельніцтва |
| | | | |

У спісы населеных месц уносяцца выпраўленні толькі па прапушчаных дамах, гаспадарках і насельніцтву пры завядзенні пагаспадарчых кніг.

Выяўленыя змены, якія адбыліся (нарадзіўшыяся ў 1938 г., прыбыўшыя) пасля складання пагаспадарчых кніг—уносяцца

толькі ў пагаспадарчыя кнігі, а ў спісы населеных месц у далейшым уносіць гэтыя змены не трэба.

У лік прапушчанага насельніцтва неабходна ўключыць і асоб, часова пражываючых, якія пры складанні спіса ф. № 4-а у сельсовеце не былі ўлічаны.

Начальнік Бюро перапісу насельніцтва
Менскага абласнога УНГУ **Растокінскі.**

## Дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва Бюро перапісу насельніцтва Менскай вобласці з Бюро перапісу насельніцтва Віцебскай вобласці па правядзенню падрыхтоўчых работ да ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года і правядзенню самаго перапісу

Улічваючы ўсю важнасць і гаспадарча-палітычнае значэнне прадстаячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года і маючы на ўвазе, што высокая якасць падрыхтоўчых работ з'яўляецца адной з асноўных умоў паспяховага правядзення перапісу насельніцтва, мы, работнікі Менскага абласнога бюро перапісу насельніцтва, уключаемся ў соцыялістычнае спаборніцтва і канкрэтна бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Разам з аддзелам кадраў УНГУ БССР прагледзець склад раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота, забяспечыўшы правядзенне перапісу праверанымі ў палітычных і дзелавых адносінах кадрамі.

Таксама забяспечыць у раёнах якасны падбор масавых кадраў па перапісу насельніцтва.

2. Забяспечыць выдатную якасць, у сэнсе паўнаты і дасканальнасці, спісаў населеных месц, спісаў домаўладанняў і ўсяго картаграфічнага матэрыяла, правёўшы поўную выверку.

3. Арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва і абмен вопытам у правядзенні падрыхтоўчых работ сярод раённых і ўчастковых інспектароў.

4. Своечасова арганізаваць і ўзорна правесці з раённымі і ўчастковымі інспектарамі курсы па праграме пытанняў перапісу насельніцтва, забяспечыўшы ўсваенне праграмы не ніжэй як на „добра". Акрамя таго, забяспечыць кантроль за якасцю правядзення інструктажа масавых кадраў перапісу насельніцтва ў раёнах.

5. Забяспечыць сістэматычны нагляд за складам населеных месц у сельсоветах і забяспечыць кантроль за свое-

часовым унясеннем змен па складу насельніцтва ў пагаспадарчыя кнігі сельсоветаў.

6. У мэтах удасканалення раённых оргпланаў перапісу насельніцтва, у лістападзе месяцы сіламі раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота, шляхам суцэльнага абхода, зверыць оргпланы з наяўнасцю населеных месц у натуры.

7. Своечасова і па якасці не ніжэй як на „добра" праводзіць усе падрыхтоўчыя работы па перапісу.

8. Праз раённых і ўчастковых інспектароў своечасова і добра забяспечыць разгортванне сярод насельніцтва масавай палітычнай работы па растлумачэнню задач, стаячых па правядзенню перапісу насельніцтва, забяспечыўшы правядзенне сходаў, гутарак і г. д. у кожным калгасе, населеным пункце, прадпрыемстве, школе і г. д., а таксама забяспечыць своечасовую высылку раёнам усіх агітматэрыялаў па правядзенню перапісу насельніцтва.

9. Правесці перапіс насельніцтва на „выдатна" і дакладна ў тэрмін, які будзе ўстаноўлен урадам.

Дагавор гэты дзейнічае да канца перапісу і здачы папярэдніх вынікаў.

Па сканчэнні кожнага квартала правяраць выкананне дагавора пры ўдзеле абодвух бакоў.

Арбітрам просім быць Бюро перапісу насельніцтва ЦУНХУ і Бюро перапісу насельніцтва УНГУ БССР, а таксама ўчотныя інспекцыі ЦУНХУ і УНГУ БССР.

Начальнік Бюро перапісу насельніцтва
Менскага абласнога УНГУ **Растокінскі.**
Старшыня МК **Магідаў.**
Работнік бюро перапісу насельніцтва **Барадзіна.**

**Адказны рэдактар В. Магідаў.**

Здана ў друк 3/VI 1938 г. Падпісана да друку 10/V 1938 г.
Галоўліт БССР № 4413. Аб'ем друкав. арк. $1^3/_4$. Тыраж 450 экз.

Зак. № 3034. „Палесдрук", Гомель, Совецкая, 1.

